


# Рабочы
## Дзвінскага памежжа

26 ліпеня - 1 жніўня 2001г Тэл./факс у Верхнядзвінску: (02151) 2-25-08 Наклад 250 ас. № (27)64

АД ПАДЗЕІ ДА ПАДЗЕІ

### ВЫБАРЫ

**По звестках інфармацыйна-рэсурсовага цэнтру грамадскіх арганізацый "Рубон" ініцыятыўнымі групамі па вылучэнні кандыдатур для ўдзелу ў выбарах прэзідэнта сабрана наступная колькасць подпісаў: В.Ганчарык – 680, С.Домаш – 833, С.Калякін – 175, А.Лукашэнка – 1040, Л.Сініцын – 837, В.Цярэшчанка – 950, М.Чыгір – 691.**

**Вядома ж, гэткая раскладка толькі прыблізна адлюстроўвае палітычныя сімпатыі нашых выбаршчыкаў. Папершае, па-за бортам увагі зборшчыкаў застаўся цэлы тузін заяўленых для ўдзелу ў выбарах асобаў, а па-другое, колькасць сабраных подпісаў наўпрост залежала ад колькаснага складу ініцыятыўных груп; у прыватнасці, на А.Лукашэнку ў раёне працавала нашмат больш асоб, чымся на ўсіх астатніх разам. А ўрэшце, сімпатыі электарату будуць мяняцца па меры таго, як у афіцыйныя СМІ прасочацца хоць нейкія звесткі пра зарэгістраваных кандыдатаў. Не сакрэт, што падпісчыкі "Белорусской нивы" і "Советской Белоруссии" не чулі пра С.Домаша, В.Цярэшчанку, а пра М.Чыгіра могуць паведаміць вам, што "гэты злодзей дасюль у турме сядзіць".**

### СПЯКОТА

**Адна за адной з розных куткоў раёну паступаюць трагічныя звесткі аб тапельцах. 21 ліпеня пад вечар у сажалцы на вачох у сям'і патануў жыхар вёскі Сенькава С. Загінуў малады чалавек, руплівы працаўнік, бацька двух дзяцей. Хочацца крыкам крычаць, каб людзі асцерагаліся смяротнай небяспекі, якую тоіць у сабе вада. Здаецца, кожнаму ж вядома, што для адпачынку неабходна мець адпаведныя ўмовы... Здаецца, кожнаму ж вядома, што для адрысці-адплысці на пару метраў ад берага, а ў вялікіх рэках выбрацць для купання ціхую завадзь. Нехта з кампаніі павінен быць абавязкова на беразе, маючы напагатоў простыя падручныя выратавальныя сродкі – надзіманая рэчы альбо хаця б вяроўчыну з кавалкам пенапласту на канцы.**

**Жыццё ж нам даецца толькі аднойчы...**

### НАРЫХТОЎКА

**Ізноўку, як і летась, у самы разгар лета ў саўгасе імя Сімацкага рэзка скарацілі закуп малака ў насельніцтва, пакінуўшы сам-насам з багатымі надоямі гаспадароў з аддаленых вёсак. Прычына таму універсальная: няма гаручкі на вываз прадукцыі. Каб вырашыць праблему збыту "лішняга" малака, тубыльцы пояць чыстым сырадоем сабак, авечак, курэй і ўсіх жадаючых, абмяркоўваюць тэарэтычную магчымасць вырабу з непадсалоджанага кісляку спіртовых напояў.**

# ПАД ВЕТРАЗЯМІ ЮНАЦТВА

**Як мы паведамлялі, сябры атрада "Ветразь" з Сенькаўскай базавай школы, якія прызаймаліся навучальны год па творчай праграме школы ваенна-патрыятычнага выхавання, прайшлі лагерныя зборы ў Віцебску.**

Вайна толькі водгуллем парадаў ды аркестраў напамінае нам пра сябе ў святочныя дні, а для кагосьці жывая памяць пра яе сталася справай цэлага жыцця. Такая і энтузіястка-краязнаўца, а зараз арганізатар і спецыяліст пошуку слядоў і імёнаў Вялікай Айчыннай вайны Валянціна Бруева з Віцебску. Шмат гадоў яна ўзначальвае рух "Пошук" на Віцебшчыне. Яе стараннямі сёлета былі арганізаваны ваенна-спартовы лагер на возеры Лосвіда пад Гарадком. Два тыдні ў складзе пяці лепшых атрадаў вобласці пражыў там паўнакроўным жыццём і атрад "Ветразь" з Сенькаўскай базавай школы нашага раёну. Апекуном у рабят быў Сяргей Леанідавіч Шыманскі, а непасрэдным камандзірам – дзевяцікласнік Коля Мотуж.



На здымку: *лагер працуе.*

Жылі атрадаўцы ў звычайных палатках, харчаваліся па-паходнаму, самі гатавалі ежу на кастры. У восем – пад'ём, у 23.00 – адбой. Паміж гэтымі гадзінамі ўмяшчаліся фіззарадка, гаспадарчыя клопаты, вахты, спецыяльныя заняткі, гульні, конкурсы і дыскатэкі. Неабходнай для сучаснай моладзі дыскатэкі не было толькі аднойчы – 28 чэрвеня, калі праводзілася вечарына-рэквіем, і на прыцішлым возеры загойдаліся вянкі з запаленымі ў гонар герояў вайны свечкамі. Гарадоцкая зямля вытрымала некалі віхуру жорсткіх баёў, яна ўсеяна брацкімі магіламі, тысячы імёнаў салдат яшчэ не прачытаны. Таму рабяты прымалі ўдзел у кантрольных раскопках на пошук захаваных воінаў, у конкурсе праектаў новага помніка на брацкай магіле, а 22 чэрвеня, у суровую гадавіну пачатку Вялікай Айчыннай з даху назіральнага пункту яны ўбачылі жывую панараму сапраўдных ваенных вучэнняў з поўным наборам стрэльбаў. Найбольшае ўражанне пакінулі агняметы. Вось з якой непасрэднасцю гэта зафіксавана ў атрадным дзённіку "Ветразя", які вяла Света Скавародкіна: "Развалюха ў выглядзе танка загарэлася так хутка, а полымя ахапіла ўсё наваколле. Гэты "агеньчык" быў агромністы, нібыта купальскія колы гарэлі..." Стралялі самі з аўтамата АКС-74 ("Вушы заклала на цэлы дзень"), спускаліся з вучэбным парашутам ("Усё йшло сваёю чарадой: інструктаж, падрыхтоўка, скачок, ды не ставала жарсці ў душы – занадта нізка"). Вядома ж, не ўсё спрэс было "ваеннае". Было шмат чыста спартовых мерапрыемстваў: паласа перашкод, водна-сухапутнае пола, шахматы, валейбол, футбол, былі вясёлыя моманты, ставала прасторы і для фантазіі. Цікава прайшоў Дзень Нептуна, хапала весялосці на "Рабінзанадзе", у конкурсе інсцэніровак "Старая казка на новы лад", можна было пазмагацца за смачныя прызы ў конкурсе "Прырода і фантазія", здзівіць усіх прэзэнтамі на "Дзень імяніннніка", атрымаць першае месца за неядома-кіслы суп з шчаўя ў дзень "Залаты вітамін".

А яшчэ быў Дзень самакіравання і былі абавязковыя начныя дзяжурствы, калі ва ўсім свеце – толькі вы з сябруком, мігатлівае полымя кастра ды ледзь чутны плёскат азёрных хваляў. У такія ночы расце чалавек, ачышчаючы душу, спавядаецца перад сабою за свае нецяжкія яшчэ грахі. На ўсякі выпадак абрад адмывання грахоў быў здзейснены над усімі, і рабяты пакідалі лагер ужо іншымі – больш сканцэнтраванымі, стрымана-энергічнымі і акрыленымі адначасова. Раставаліся на Кургане Дружбы, куды прыехалі аўтобусным марш-кідком з начлегам на Асвейскім возеры. На Кургане яны ўдзельнічалі ў цырыманіяле, ладзілі выставу аб сваім жыцці. Сенькаўскі "Ветразь" прывёз з сабой цэлы веер узнагарод і заслужыў славу спартовых і сяброўскіх хлопцаў і дзяўчат.

А ў маляўнічым дзённіку атрада апошнімі радкамі засведчана: "І вось растанне – слёзы і агромністая радасць, што мы сустрэліся і так пасябравалі. Мы ведаем, што ніколі не забудземся на нашых новых сяброў. Будзем з вялікай надзеяй чакаць наступных сустрэч з імі".

Хай жа збудуцца вашы надзеі.

**А.БУБАЛА.**

ПРАБЛЕМА

# НЕ ПРАГНЯВІ СВАЁ СЭРЦА

**Праблемы нашага сучаснага жыцця... Сёння ні ў кога няма сумневу, што значная частка з іх мае псіхалагічны характар. Таму практычная апора на псіхалагічныя веды ў іх вырашэнні з'яўляецца вельмі актуальнай.**

Давайце паспрабуем разабрацца, у чым яны праяўляюцца і чым яны выкліканы. Пачнем з агрэсіі, яна літаральна захліснула з галавою наша сучаснае грамадства. Агрэсія – гэта гнеў, злосць, дзеянні супраць іншых людзей, калі яны перашкаджаюць у задавальненні патрэбаў ці ў дасягненні мэтаў. Адрозніваюць агрэсію фізічную – гэта войны, забойствы, рабаўніцтва, знішчэнне ці псаванне матэрыяльных каштоўнасцяў, гвалтаванне, бойкі (больш тыпова для мужчын).

Жанчым уласціва іншая форма агрэсіі – гэта слоўная (вербальная): лаянка, крык, плёткі, кляўзы, ананімкі. Аўтаагрэсія (накіраваная на сябе) – гэта пастаяннае незадавальненне сабою, а адсюль язвы, інфаркты, артрыт і іншые захворванні; суіцыды (пазбаўленне сябе жыцця), у дзяцей – абкусванне пазногцяў і інш.

Прычынай агрэсіўных паводзін можа з'яўляцца няўдача, канфлікт, падман, памкненне да самасцвярджэння. Агрэсія ўзнікае часцей у грубага, нястрыманага, малакультурнага чалавека. Аднак стан агрэсіўнасці можа ўзнікнуць і ў выхаванага чалавека, які адрозніваецца спакойствам і вытрымкай, калі закрануць яго гонар і годнасць. Што ж трэба рабіць, каб пазбегнуць гэтага стану?

Паспрабуйце "згасіць" агрэсію, не адказваць узаемнасцю. Гэта вельмі цяжка і даступна толькі моцнай асобе ці культурнай і добра выхаванай. Але часцей агрэсія – гэта крык аб дапамозе і першае, што трэба зрабіць, — гэта выслухаць чалавека і зразумець яе прычыны. Праўда, мы не ўсе, за вельмі рэдкім выключэннем, умеем слухаць суразмоўцаў. Гэтаму трэба вучыцца і ў гэтым вам дапаможа спецыяліст-псіхолаг.

Што ж мы маем у сябе дома? Мноства прыкладаў праяў агрэсіі пастаянна, амаль усюды. Вось адзін з іх. У 2000 годзе дабраахвотна зыйшлі з жыцця 21 жыхар Верхнядзвінскага раёну. Сёлета колькасць самагубцаў расце яшчэ хутчэй. Сярод іх было шмат маладых, здаровых, поўных жыццёвай моцы людзей. Што можна было зрабіць, як зараз нам дапамагчы людзям, якія не могуць больш жыць, не бачаць выйсця з жыццёвай пасткі? Як магаранейй трэба ствараць службу "Тэлефон даверу". Як яе арганізаваць, як яна павінна працаваць – падрабязна выкладзена ў газеце "Школьны псіхолаг" за студзень 2001 году. Дзе знайсці спецыялістаў, каб забяспечыць гэтую працу? У нас у Верхнядзвінску яны ёсць. Гэта ўрач-псіхіятр Людміла Сяргееўна Ціханчык, урач-неўрапатолаг А.П. Іўлеў; урач-псіхіятр Л.Гушчанка; практычны псіхолаг С.Г. Рашчыненка; метадыст-псіхолаг І.М. Міклушонак; практычны псіхолаг А.В. Сушко. У школах працуюць школьныя псіхолагі. Псіхалагічная служба аддзелу адукацыі сёння мае 11 спецыялістаў. Праўда, сярод іх ёсць "навічкі" з педагогаў без спецыяльнай адукацыі, але ёсць і прафесіяналы.

*(Заканчэнне на стар. 6).*

**РАСКЛАД ЗАНЯТКАЎ ГУРТКОЎ ВЕРХНЯДЗВІНСКАГА ДОМА РАМЁСТВАЎ**

*Саломапляценне:* ***аўторак – з 17 да 20 гадзін; серада – з 16 да 19 гадзін; нядзеля – з 9 да 12 і з 14 да 17 гадзін.***
*Разьба па дрэву:* ***чацвер – з 17 да 20 гадзін; субота – з 12 да 15 гадзін.***
*Фларыстыка:* ***нядзеля – з 12 да 15 гадзін.***
*Запрашаюцца ўсе жадаючыя.*

БЫВАЛІЦЫ

# ВЫПРАБАВАННІ РАДЗІМАЙ

Лета было ў самым разгары. Мы, малыя, купаліся ў лужыне, усе разам – дзяўчынкі і хлапчукі. Вада рабілася жоўтай ад гліны, але нам было так хораша! На нас лагодна свяціла сонца, і непадалёку ад нас, крыху ніжэй, прымалі гразевыя ванны надворныя свінні. Іх пасвілі нашы равеснікі. Яны з зайздрасцю пазіралі на нас. Непадалёк жанкі жалі сярпамі збажыну, а далей аралі поле нашы бацькі...

Адвячоркам у Гісялёва прыехалі незнаёмыя ўзброеныя людзі. На іх былі зялёныя гімнасцёркі і сінія шырокія штаны-галіфэ. Збоку ў кожнага боўталася драўляная кабура, з другога – скураная сумка. Па вёсцы пабеглі чуткі: шукаюць Бубалу Антона Зынонавіча. За што, чаму? Ён нічога нікому дрэннага не зрабіў, а толькі працаваў ад ранку да вечара. Тымчасам мы залезлі да дзеда Стапана на сена. Нарабіўшы ў сене нор, мы хаваліся ў іх, чакалі, каго адшукаюць першага. Раптам на сена ўзлезлі з віламі тыя чацвёра ў гімнасцёрках. Яны пачалі змаху калоць сена, прыгаворваючы: "Вылазь, маць тваю! Галаву пракалю!" Спужаўшыся, мы рухнулі, нібы тыя напалоханыя свінні з балота, і выскачылі з сховішчаў. Убачыўшы накіраваныя на нас дулы пісталетаў, мы старчма пакаціліся з сенішча і разбегліся ва ўсе бакі. На вуліцы пачыналася навальніца. Ударыў пярун, лінула як з вядра. У хаце стала цёмна. Маці глянула ў вакно і ўстрывожана гукнула суседцы Ганне: "Далібог, Бубала бяжыць!" У хату ўбег Антон, прыгожы хлапец, у касцюме, пры гальштуку. Ён усім нам падабаўся. Працаваў таксама прыгожа. Памятаю, з напарнікам Антон пілаваў дошкі ў суседа, і мы, разявіўшы раты, глядзелі, як спрытна ішла ў іх праца. Адзін стаяў уверсе высока, другі – знізу. Узмах – і вялікая піла апускалася ўніз, а хлопцы рабілі крок наперад. Потым бервяно расшчэплівалі клінам. На зямлю адна за адной ляцелі прыгожыя смалістыя, духмяныя дошкі. Заўважыўшы нас, жэўжыкаў, хлопцы суцяшалі: "Станеце дарослымі – у вас будзе атрымлівацца яшчэ прыгажэй!" Гэты прыгожы дзядзька даў нам па дзве вельмі смачныя цукеркі. Самі ж яны селі на бервяно і пачалі сілкавацца. А пасля пачалі чараваць над другім бервяном. Падыйшоў дзед Вільгім. Мы яго вельмі не любілі, бо ён заўсёды лічыў нас шкоднікамі, і мы апраўдвалі гэту мянушку. Вільгім звярнуўся да іх: "Антоні! Калі ласка, дапамажы, бо надта надакучыла гліну нюхаць, падлогу б зладзіць. Бярвенне псуецца". "Абавязкова зробім, — адказалі тыя. – Але закончым тут, трэба дапамагчы калгасу. А тады табе". Цяпер я не мог зразумець, чаму Антона ловяць як злачынцу. Маці з суседкай са слязьмі на твары неслі чысты ручнік, шукалі ў што перапрануцца ў сухое ўцекачу, якога лівень выгнаў з схованкі. І тут каля вакон пабеглі гэтыя... "Рукі!" – і на малістых руках шчоўкнулі жалязякі. Не далі Антону перапрануцца ў сухое. Чалавек знік у невядомасці. Гэта быў 1934 год. Такая доля сустрэла і Антонавага напарніка.

Хутка наступіў голад, галеча. Недзе знік і мой бацька, і бацькі маіх сяброў. Так і не дачакаўся Вільгім дапамогі, застаўся на глінянай падлозе ў курнай хаце, у якой быў ачаг і дым выходзіў у адтуліну ў столі. Нас, ужо як сыноў ворагаў народу, паставілі за плуг. Наша дзяцінства скончылася, а дзед Вільгім стаў называць нас бязбацькавічамі... Нібы гром у ясны чэрвеньскі дзень, грымнула вайна. Схуднелыя, змарнелыя, нікому не патрэбныя, мы змагаліся за сваё існаванне, суцяшалі сваіх мацярок, працавалі дзень і ноч. Людзей, якія зніклі тады без вестак, перасталі чакаць, змірыліся. Тыя, што пайшлі абараняць Радзіму, таксама прапалі без вестак. Вільгімаву хату старанна фатаграфавалі немцы. Ім карцела паказаць у Германіі, як "культурна" жывуць людзі ў Савецкім Саюзе. Ужо пасля вайны, прайшоўшы на "выдатна" курсы еўрапейскага рабства, нагледзеўшыся жахаў смерці, я да клічкі сына ворага народа атрымаў яшчэ таўро пабывалага ў палоне. На радзіме трэба было будавацца, рабіць хату.

*(Заканчэнне на стар. Г).*

ЮРЫДЫЧНАЯ КАНСУЛЬТАЦЫЯ

# ВЫ ЎСТУПАЕЦЕ Ў ШЛЮБ

Мы з маім будучым мужам хацелі заключыць шлюбную дамову, у якой вызначалася б права ўласнасці кожнага з нас. Аднак знаёмыя кажуць, што кантракт можна будзе зарэгістраваць натарыяльна толькі пасля ўступлення ў шлюб. Ці так гэта? А калі пасля рэгістрацыі шлюбу мой муж адмовіцца падпісваць кантракт?

**В.К.,** г. *Верхнядзвінск.*

***Каментар юрыста Верхнядзвінскай раённай арганізацыі "Камітэта абароны правоў працоўных":***

– Сапраўды, у адпаведнасці з Указаннем аб парадку натарыяльнага засведчання, змены і скасавання брачнай дамовы , дамова рэгіструецца натарыяльна толькі пры наяўнасці пацверджання аб рэгістрацыі шлюбу ў ЗАГСе. Такім чынам, ні вянчанне, ні знаходжанне ў фактычных шлюбных адносінах не даюць права на заключэнне шлюбнай дамовы. Перадумовай шлюбнай дамовы, як і любой грамадзянска-прававой здзелкі, з'яўляецца свабоднае волевыяўленне бакоў. Таму, калі Вы да шлюбу абмеркавалі ўмовы дамовы, а пасля рэгістрацыі Ваш муж адмаўляецца падпісаць яе ў раней абумоўленым выглядзе ці наогул адмаўляецца падпісваць, Вы не зможаце нічога зрабіць. Прымусіць да падпісання шлюбнага кантракту на той падставе, што паміж вамі была такая дамоўленасць, немагчыма.

*Іду на ўзлёт*



*(фота В.Хархардзіна)*

ЧУТКІ

***Ходзяць...***

**...** што падчас фармавання ўчастковых камісій па выбарах прэзідэнта "вертыкальшчыкі" ўлічваюць нават... падпіску на незалежныя сродкі масавай інфармацыі. Як вядома, у сельскай мясцовасці, дзе адчуваецца пэўны недахоп кваліфікаваных кадраў для працы ў выбарчых камісіях, звычайна ў іх складзе на ўсіх папярэдніх выбарах працавалі адны і тыя ж людзі. Аднак зараз "вертыкаль", гледзячы па ўсім, галоўным пры фармаванні камісій зрабіла паказчык палітычнай лаяльнасці. Напрыклад, кажуць, што былы нязменны старшыня адной з прыгарадных участковых камісій не ўвайшоў у яе склад нават у якасці радавога члена. Справа ў тым, што, па чутках, ён з'яўляецца падпісчыкам "Народнай волі".

З СУЧАСНАГА ФАЛЬКЛЁРУ

*Не спявай мне, салавейка,*
*Не хачу дзяўчат любіць –*
*Ажанюся, пойдуць дзеткі,*
*Чым я буду іх карміць?*

*Я б гарэлачкі папіў –*
*Ды не дужа смачна,*
*Я б дзяўчыну палюбіў –*
*Толькі СНІДу страшна.*

ДА ПАДАННЯЎ

# АСВЕЙСКІ ВОСТРАЎ

**Мы працягваем знаёміць нашых чытачоў з гістарыка-археалагічным каментарам да рубрыкі «Паданні», які нам прапанавалі арганізатары конкурсу «Легенды і паданні роднага краю».**

... У старажытнасці яго называлі Ду. Мяркуючы па апісаннях, у сярэдзіне XIX стагоддзя там была вёска на 14 двароў. А яшчэ раней мелася і царква Раства Багародзіцы.

... Вёска, якая існавала на востраве да 1970 года, знаходзілася ў заходняй яго частцы. Былі, відаць, тут і хутары.

Па паданні, першымі пасяленцамі вострава былі стараверы. Захаваліся нават іх імёны: Біруля, Васька і Лось. Ад іх пайшлі назвы тутэйшых мясцін: Біруліна (усходняя частка вострава), Васькаўшчына (заходняя) і Ласькова (паўночная). Гэтыя трое, быццам, раскарчавалі лес і пабудавалі кожны сабе жытло.

З пакалення ў пакаленне перадаваліся назвы нізінак і горак.

Гара Піліпаўка. Ладная, пакатая і даволі высокая гара, з вяршыні якой праглядаецца амаль увесь востраў. Формай яна крыху нагадвае егіпецкую піраміду.

Цалкам магчыма, што менавіта гэта гара, размешчаная амаль у самым цэнтры вострава, і была той святой мясцінай, куды старажытныя угры збіраліся на паклон сваім багам; на яе вяршыні стаяў іх ідал, і яны, распластаўшыся ля яго ног, прыніжана прасілі для сябе ўдачы, надвор'я, ураджаю і сілы.

Доўгае балота, якое працягнулася роўнай лініяй праз востраў, называецца Верацеі.

У паўночнай частцы – гара Перуноўка. З яе вышыні, на якой ёсць невялікае паглыбленне, адкрываецца маляўнічы далягляд на возера і прыазёрныя вёскі.

Гара Лыска – тая, што бліжэй да паромнага прычалу.

У паўднёвай частцы возера, на беразе – гара Гарадок. Тут часам корпаюцца вучоныя – гэта старадаўняе гарадзішча. Здзіўляе сваёй сіметрычнасцю і роўнай, бы сцэна, пляцоўкай наверсе. На ёй яшчэ нядаўна астраўляне ладзілі ў святы ігрышчы з кастрамі.

Бірулінскія вароты – гэта тая мясціна, дзе можна было прабрацца цераз балота ва ўсходнюю, бязлюдную частку вострава.

Бліжэйшую да вёскі горку называлі Гумны. Да вайны на ёй стаяла адрына, была малацільня. А яшчэ раней, казалі, на гэтым узвышэнні месціўся стары магільнік, якраз пры будоўлі адрыны тут знаходзілі чалавечыя косці. Магчыма, гэты ўзгорак і ёсць тое месца, дзе ў мінулым стаяла астраўская царква. Плоская яго вяршыня распраўлена з захаду на ўсход у дакладны прамавугольнік; плошчы якраз хапае, каб паставіць невялікую цэркаўку і пакінуць дарожку вакол сцен.

Да вайны на востраве дзейнічаў калгас "Прыазёрны", у вёсцы налічвалася 65 двароў. Жылі на ўсім сваім. Завозілі толькі сена і дровы. Адных рабочых коней трымалі трыццаць галоў. Для калгасных кароў мелася паша, уласных жа ганялі цераз Перавозь: уранку кароўкі плылі з вострава, увечары – дадому на востраў.

Была свая пачатковая школа. "Як жылі б у тым калгасе, ніхто з вострава не пайшоў", — чуў я ад былых астраўлян. Багата жылі: стала і рыбы, і бульбы, і хлеба. Свая электрычнасць была. Жылі дружна. На акцябрскія рэзалі быка, закуплялі гарэлкі ды ладзілі ў сваім клубе вечарыну.

Цяжка бывала позняй восенню ды ранняй вясною – у такую пару даводзілася сядзець дома.

Я шукаў могілкі. Спытаць не было ў каго: агромністая тэрыторыя – на сотні гектараў – даўно абязлюдзела. Трава стаяла да пояса, сады былі закінутыя і паспелі адзічэць... Мінуўшы некалькі пагоркаў і перабраўшыся цераз балоцістую нізіну, я ўбачыў дарогу на высокі ўзгорак, дзе шумелі бярозы. Гэта і былі могілкі – апошні прытулак людзей, што жылі калісьці на Востраве.

**Паводле Ю.ТАТАРЫНАВА.**

АПЫТАННЕ

**— Раён пакідае дырэктар цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы В.І. Крук. Якія думкі ў сувязі з гэтым у Вас узнікаюць?**

***В.Кудлацкая, кіраўнік рэгіянальнага інфармацыйна-рэсурсовага цэнтра грамадскіх арганізацый "Рубон":***

— Валянціна Іосіфаўна Крук – найлепшы функцыянер-апаратчык з тых, што сустракаліся мне ў жыцці. Гранічна арганізаваная сама, яна здольна арганізаваць іншых на сістэмную працу і паслядоўна дабівацца мэты. Вырасціць ёй дастойную замену няпроста.

***Васіль Казлоў, дырэктар РДК:***

— Валянціна цягнула гуж нялёгкай працы на поўную сілу, працавала без "расслабону". Яна найталенавіты арганізатар сярод нас. Такія людзі – рэдкая знаходка ў раёне. Ды наша Дрыса не ўмее берагчы такіх людзей. Тое, што Валянціну Крук "выпусцілі" ў Полацк – відавочная стратэгічная памылка мясцовага кіраўніцтва.

***Н.В., бібліятэкар:***

— Я працавала пад начальствам Валянціны Іосіфаўны семнаццаць гадоў. Было нялёгка. Не ўсе згодны былі працаваць у той запрэжцы і ў тым рытме, які яна прапанавала. Толькі Іосіфаўна спакойна, метадычна і цвёрда пераадольвала супраціў, не давала паблажкі ні сабе, ні іншым і ўрэшце дасягнула галоўнага – стварыла працаздольны калектыў, дала нам адчуць смак працы, навучыла бачыць гарызонты. Спадзяемся, што набытае застанецца з намі.

***А.Бубала, сябар народнага Клуба цікавых сустрэч:***

— З выездам Валянціны Крук адломваецца цэлы кавалак нашага змястоўнага грамадскага жыцця. Так акультурваць інтэлектуальную глебу ў нашай правінцыі не кожны здолее. Яна нам была патрэбна, бо з ёй мы адчувалі паўнату жыцця. На жаль, высокія ўладныя асобы не заходзілі на агеньчык нашага Клуба цікавых сустрэч, інакш яны б ацанілі незвычайныя здольнасці Валянціны Іосіфаўны і пастараліся б "заякарыць" яе назаўжды ў Верхнядзвінску.

*Пераможцу віктарыны «Ад А да Я» чакае арыгінальная узнагарода ад раённай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны.*

ВІКТАРЫНА

# Ад А да Я

**Працягваем віктарыну-гігант "Ад А да Я" на прыз Верхнядзвінскай раённай Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Нагадваем, што вынікі падводзяцца як паэтапна (па пяці заданнях), так і агулам.**

**На сёння прапануецца крыжаванка, у якой усе словы пачынаюцца з літар «Л».**



**Па гарызанталі:** 1. Традыцыйная тэхнічная культура на Верхнядзвіншчыне. 2. Другое па велічыні возера ў раёне. 3. Самая аддаленая вёска ў Бігосаўскім сельсавеце. 4. Глухая вёсачка на р. Ужыца. 5. Возера ў Сенькаўскім сельсавеце на мяжы з Латвіяй. 6. Вёска на р. Свольна ў Дзёрнавіцкім сельсавеце. 7. Дзікарослая або акультураная расліна з сямейства бабовых. 8. Былы фальварак М.Неміровіча-Шчыта паблізу в. Жоўніна. 9. Паляўнічы сабака. 10. Хутар на левым беразе Сар'янкі паблізу Вознава. 11. Невялікі драпежнік. 12. Высакародная кветка. 13. Начная птушка. 14. Вёска на ўсход ад воз. Купальнае ў Чапаеўскім сельсавеце. 15. Былая вёска ў Наддзвінні, на тэрыторыі калгаса "Праўда". 16. Папулярны ядомы грыб. 17. Спаленая вёска ў Каханавіцкім сельсавеце. 18. Былая вёска ў лясах над ракой Піжаўкай. 19. Птушка з Чырвонай Кнігі, якая плодзіцца на возеры Будзянка.

## *Адказы на заданні Дж, З, Дз, І, К віктарыны "Ад А да Я"*

**Дж** 1. Джамбул. 2. "Джойнт". 3. Джгір. 4. Джунглі. 5. Джульбарс. 6. Джэйран. 7. Джала. 8. Джыгіт.

**З** 1. Залессе. 2. Залучча. 3. Зябкі. 4. Задзежжа. 5. Зунда. 6. Зімацкая. 7. Заточча. 8. Запруддзе. 9. Забелы. 10 Зялькі. 11. Зашчырына. 12. Замошша. 13. Забор'е. 14. Згоды. 15. Зімародак. 16. Зледзяненне. 17. Змейка. 18. Змеяед. 19. Зуброўка. 20. Зязюля. 21. Зябер.

**Дз** 1. Дзёрнавічы. 2. Дзегцярова. 3. Дзянісенкі. 4. Дзвіна. 5. Дзям'янава. 6. Дзедзіна. 7. Дзяргач. 8. Дзісна. 9. Дзегцярова. 10. Дземя. 11. Дзераза. 12. Дзягіль. 13. Дзербазы. 14. Дзік. 15. Дзербнік. 16. Дзяцел. 17. Дзяраба. 18. Дзьмухавец. 19. Дзіванна. 20. Дзівасіл. 21. Дзевяковіч.

**І** **Па гарызанталі:** 1. Іл. 2. Імжа. 3. Ірга. 4 Івалга. 5. Ілгачы. 6. Ільіно. 11. Ісакава. 12. Ідаліна. 13. Імшарніца.
**Па вертыкалі:** 7. Ізубрыца. 8. Іванцова. 9. Ігналіна. 10. Імшарнік.

**К** 1. Канавальчыкі. 2. Капусцёнак. 3. Казачонак. 4. Капуснікі. 5. Каралёк. 6. Кіслік. 7. Канюк. 8. Крукі. 9. Кекары. 10. Квакша. 11. Козікі. 12. Каменка. 13. Крэўнікі. 14. Краўчонкі. 15. Красілаўка. 16. Каржанеўскі. 17. Курганаватка. 18. Каменяломнік. 19. Казлабароднік.

# НАКАЗ ПАМЯЦІ

***Завершаны ганаровы круг нованароджанай гісторыка-дакументальнай хронікі – кнігі "Памяць". З прэзентацыйных імпрэзаў кніга пайшла працаваць у народ на доўгія-доўгія часы. Праводзячы яе ў людзі, прапануем чытачам матэрыял Сяргея Панізніка, які прапаноўваўся пісьменнікам пад загалоўкам "Духоўная ноша памяці" ў якасці ўступнага слова да чытача.***



*Дні Асвейскай трагедыі звераны:*
*непакорнымі мы былі!*
*А бяспамяцтва выклятым зверам*
*так і ходзіць яшчэ па зямлі.*
*Прыглядайцеся, людзі харошыя,*
*і найперш да сябе, да сябе.*
*Не купляецца Памяць за грошы:*
*дабываецца ў барацьбе.*
*Прытуляйцеся, людзі харошыя,*
*да карэнняў сваіх у мальбе.*
*Непатрэбны нам думкі парожнія*
*і на самым свяцейшым ілбе.*
*Адраджайцеся, людзі прыгожыя:*
*самі вы – гэта памяць вясны.*
*Забрунелі пупышкі-гарошыны*
*на галінцы Радзімы пязможанай –*
*І калышуцца сэрцаў званы.*

На карце Віцебскай вобласці Верхнядзвінскі раён выглядае нібы вока пад густымі бровамі латгальска-пскоўскіх лясоў. І Асвейскае возера-зрэнка гэтага дазорнага вока іскрыцца то крыцамі старажытных гарадзішчаў, то вышчарблінкамі стомленых мячоў, то жарынкамі выпаленых да тла котлішчаў...

*Нялёгка несці боль гаротны,*
*калі дрыготкія кругі*
*страсаюць сэрца.*
*Дух народны*
*пязгодай з ворагам – пязводны*
*і дружалюбствам – дарагі.*

Асвейска-одрызская зямля стаяла ў дазоры і перад крыжакамі і перад іх кайзераўскагітлераўскімі пераемнікамі. Многа было ахвотнікаў займець багатыя прасторы, кіраваць забраным краем. Але выраслі тут новыя абаронцы Радзімы і сходзіліся пад сцягі дзяржаўных вояў – ці то Андрэя Полацкага, ці то Жыгімонта Аўгуста, Сцяпана Батуры... Няўдзячнай для гісторыі аказалася напалеонаўская задума. Брацкім партызанскім краем называлася гэтая зямля ў гады, будзем спадзявацца, Апошняй Сусветнай вайны, якую нашыя дзяды і бацькі назвалі Вялікай Айчыннай. Прыклады ўсенароднага супраціўлення фашызму тут, на Асвейшчыне, непараўнальныя.

*Ваявала кожнае жытло,*
*ваявалі бор, залессе, парасцік...*
*І бярозу курчыла, пякло,*
*а камель яе смылеў і парыўся.*
*Ды не зрушыў душы ледавік.*
*Пад карэнне ворог не пранік!*

Апантаная нескаронасць людзей на помслівых шалях карнікаў узважылася тысячамі жыццяў, сотнямі Хатыняў...

*Ды толькі Хатынь ацалеламу люду*
*пачаткам была апраметных дарог.*
*Не зжаліўся вораг і здраднік-адлюдак,*
*і нават не зжаліўся клікаць Бог...*
*Бігосава – Саласпілс, Рыга – Майданак,*
*Маўтгаўзен, Асвенцым, Дахаў, Равенсбрук...*
*І горкі, пустэльны, вяртальны світанак,*
*дзе сыплецца зерне счарнелае з рук...*

Калі я працаваў у рыжскіх архівах над дакументальнай аповесцю "Браніслава" і кнігай народнай памяці "Освейская трагедия", спатыкаў запісы пра долю вязняў Саласпілскага канцлагера. Знаходзіў сведчанні пра ўдачарэнне Латвіяй асвейскіх дзяцей, пра ратаванне праз рыжскі манастыр, установы міласэрнасці соцен малалетніх пакутнікаў. Многія з іх пазней аказаліся параскіданымі па ўсім свеце. Алачку Дземянчонак з Маркава, місіс Вільям Лоўлар, сустрэў, да прыкладу, у Нью-Ёрку...

Але факт застаецца фактам: у вогненых вёсках, у рабскай нявольі вынішчалася будучыня нацыі. Юным мастаком быў Пятро Шандар, гарманістам Дзіма Саксон, сын Валянціны Аляксандраўны Мядзюта... Але ім была наканавана смерць у растэрміноўку – праз такую нялюдскую кару, як вампірскае выкачванне маладой крыві. Дзе зараз тыя эрытрацыты, пералітыя вермахтаўскім ваякам? Які лабараторны аналіз адшукае іх сляды ў жылах Еўропы?

*(Працяг у наступным нумары).*

БЫВАЛІЦЫ

# ВЫПРАБАВАННІ РАДЗІМАЙ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3).*

Давялося пілаваць і дошкі. Я стаяў зверху, маці знізу. Піла не жадала падпарадкоўвацца, лезла ўбок, у мяне ад стомы кружылася галава. Маці плакала, і я ўспомніў Антона Бубалу, як у іх прыгожа атрымлівалася...

Праз колькі год, на здзіўленне ўсім, з Сібіру прыйшло пісьмо на Сенькаўскі сельсавет, на імя Бубалы Антона Зыновіча.

Пісьмо было з Краснаярскага навукова-даследчага медыцынскага інстытуту. Прафесар прасіў Антона паведаміць аб стане здароўя, ці дзейнічае ў яго нага, як сябе адчувае былы ўдзельнік вайны. Пісьмо перадалі роднаму брату прапалага Францу ў вёску Пятроўшчына. Радасці не было меры ўсёй вёсцы. Чалавек вярнецца адтуль, адкуль ніхто не вяртаўся. Жывы! Адшукалі Антона ў Алтайскім краі. Праз некаторы час адбылася і сустрэча. З дзіўна падцягнутай нагой, з нервовымі штуршкамі ўбакі былы прыгажун выглядаў як падпіты вар'ят. Угаварылі Антона прыехаць на радзіму. Пятроўцы хутка пабудавалі яму хату. Пакуль ён збіраўся ў дарогу, пятроўцаў у чарговы раз раскулачылі, адабраўшы кароў, авечак, свіней. Арганізавалі калгас "Советская Белоруссия". Вяртанца ўладкавалі на працу калгасным конюхам. А калі калгас стаў будаваць фермы і набіраць сілу, вёску аб'явілі "неперспектыўнай". Хай ведаюць, як старацца, хай будуюцца яшчэ, але ў іншым месцы. Такая пашана не спадабалася Антону, і ён зноў паехаў у хлебны Алтай, на гэты раз назаўсёды.

**М.БУКЕВІЧ.**